*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# наша СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 32(469)** **16 ЖНІЎНЯ 2000 г.**

"7" ліпеня 2000 г. № 498

**Спадару Уладзіміру Ярмошыну,**
**Прэм'ер-міністру Рэспублікі Беларусь,**
**Дом Ураду, пл. Незалежнасці 220010 Менск.**

**Спадару Міхаілу Мясніковічу,**
**Кіраўніку Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь,**
**# 38, К.Маркса вул. 220016 Менск.**

Ад імя ініцыятыўнай групы па стварэнні Беларускага Нацыянальнага Універсітэта (БНУ) просім Вас знайсці магчымасць сустрэцца з кіраўніцтвам нашых арганізацый ў ліпені гэтага года для абмеркавання пытання крытычнага стану беларускамоўнага навучання ў нашай краіне і шляхоў стварэння першай у Беларусі ВНУ з беларускай моваЙ навучання.

Мы лічым, што Беларусь як **монацыянальная** краіна, дзе карэнная нацыя складае выключную бальшыню ад усяго жыхарства – 81,7%; а 85,6% беларусаў лічаць беларускую мову сваёй роднай (паводле вынікаў апошняга перапісу насельніцтва), мае права мець сваю нацыянальную (менавіта беларускамоўную!) сістэму адукацыі. Як Вам павінна быць вядома, на сёння наша краіна не мае аніводнай ВНУ, дзе ўсе дысцыпліны выкладаліся б выключна па-беларуску. Патрабуе тэрміновага вырашэння і агульны стан узнятай праблемы.

На сёння намі сабрана каля 30 тысячаў подпісаў грамадзянаў з патрабаваннем адкрыцця БНУ. Канцэпцыя першай сапраўды беларускамоўнай вышэйшаў навучальнай установы распрацаваная лепшымі беларускімі навукоўцамі і надрукаваная ў СМІ дзеля найшырэйшага абмеркавання, у якім бяруць удзел і афіцыйныя асобы. Распрацаваны таксама і праект Статута БНУ, а выкладаць у ім ужо выказалі жаданне сённяшнія супрацоўнікі Нацыянальнай Акадэміі Навук, БДУ, БДПУ імя М.Танка, БДПА і іншых ВНУ, а таксама вядомыя навукоўцы з замежжа (акадэмікі, дактары і кандыдаты навук, прафесары і дацэнты).

Адкрыццё ў Беларусі прэстыжнай ВНУ з улікам досведу лепшых універсітэтаў Еўропы на пачатку новага тысячагоддзя стане актам добрай волі, дзейсным забеспячэннем правоў грамадзянаў, гарантаваных Канстытуцыяй нашай краіны, а таксама станецца добрым чыннікам узаемаразумення ў грамадстве.

З павагай

*Старшыня ТБМ* *Алег Трусаў,*
*Прэзідэнт Згуртавання беларусаў свету* *Радзім Гарэцкі,*
*Прэзідэнт Таварыства беларускай школы* *Алесь Лозка.*

## *Універсітэту ў Лідзе быць?*

### *ПРЭС–РЭЛІЗ ТБМ*

Другога жніўня адбылася сустрэча кіраўніцтва ТБМ імя Ф.Скарыны з рэктарам Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта сп. Леанідам Ціханавым па абмеркаванні пытанняў, звязаных з адкрыццём Беларускага Нацыянальнага Універсітэта.

Старшыня ТБМ Алег Трусаў распавёў пра акалічнасці стварэння БНУ і перадаў матэрыялы, распрацаваныя Таварыствам.

Сп. Ціханаў паведаміў, што ў Педагагічным універсітэце беларускамоўныя плыні былі ўтвораныя значна раней, а цяпер практычна цалкам установа перайшла на беларускамоўнае выкладанне. Гэты пераход закрануў найбольш кафедры натуразнаўчых і дакладных дысцыплін. Ва універсітэце распрацаваная падтрымка выкладчыкам, якія пераходзяць на беларускую мову выкладання. Пастаянным застаецца паказчык выбару мовы – больш за палову абітурыентаў трымаюць уступныя іспыты па беларускай мове і літаратуры. Спараджае надзею на тое, што конкурс на спецыяльнасці, звязаныя з роднай мовай, культурай ды гісторыяй, адзін з найбольш высокіх – 3-4 асобы на места.

На сустрэчы вялася гутарка і пра стварэнне філіялу педуніверсітэта ў Лідзе. Рэктар пагадзіўся паставіць гэтае пытанне дзеля абмеркавання на вучонай Радзе.

Акадэмік Ціханаў выказаў пэўнае зацікаўленне ў справе стварэння БНУ і прапанаваў абраць месцам працы універсітэта старажытнае Заслаўе, узгадаўшы еўрапейскую традыцыю месціць элітныя навучальныя ўстановы ў мястэчках блізу буйных гарадоў.

## Першы міжнародны пленэр імя Фердынанда Рушчыца

**У межах падрыхтоўкі да 130-х угодкаў (10 снежня 2000 г.) вялікага беларускага мастака Фердынанда Рушчыца**

**4 жніўня на ягонай радзіме ў вёсцы Багданаў Валожынскага раёну пачаўся Першы міжнародны пленэр імя Ф. Рушчыца**

Зямля, дзе стаяў фальварак Рушчыцаў, дзе мастак жыў і працаваў, дзе стварыў большасць сваіх твораў, збірае мастакоў з розных гарадоў Беларусі, Польшчы, Летувы.

Задача ўдзельнікаў пленэру – пазнаёміцца з радзімаю выдатнага мастака, прайсціся ягонымі сцежкамі. А ў выніку судакранання з крыніцаю мастацкае творчасці, зямлёю Ф.Рашчыца, народзяцца творы сучасных мастакоў – на палотнах і паперы, у камені і бронзе.

Мяркуецца стварэнне праекту адбудовы радзіннага фальварка мастака, каб на будучыню там быў дом-музей творцы. У выніку пленэру сплянаваны выставы ў Гальшанах і Багданаве.

У снежанскія юбілейныя дні адчыніцца вялікая выстава ўдзельнікаў пленэру ў адной са сталічных галерэяў.

Арганізуе гэтае выдатнае культурніцкае мерапрыемства Беларускі саюз мастакоў пры падтрымцы Валожынскага і Ашмянскага райвыканкамаў.

***Намеснік старшыні Аргкамітэта Мікола Купава.***

*Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь*
**Мінск, Дом Урада**

**В. І. Стражаву**
**А.У. Казуліну**

У адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь" права стварэння ўстаноў адукацыі належыць Міністэрству адукацыі.

Прашу правесці сустрэчу з прадстаўнікамі азначаных арганізацый і абмеркаваць пастаўленыя пытанні.

Аб выніках інфармуйце Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь;

Таварыства беларускай мовы;
Таварыства беларускай школы;
Згуртаванне беларусаў свету.

*М. Дзямчук.*

17 ліпеня 2000 г.
№ 05/535-128

## Шаноўнае спадарства

Сёння мы можам із-ноў аб'явіць падпіску на "Наша слова". Яшчэ не выйшаў з друку каталог на 4-ты квартал 2000-га года, але падпіска не спынялася, таму мы прапануем вам падпісвацца менавіта зараз па старому каталогу. У большасці аддзяленняў прымаюць падпіску па старому каталогу. Разам з тым рэдакцыя мае інфармацыю, што са з'яўленнем новага каталога зноў вырасце кошт падпіскі. Даводзім да вашага ведама, што мы ні на капейку не падымалі цану на газету, а той рост, які можа з'явіцца будзе выключаны выключна ростам цаны на паслугі пошты. Практычна ўжо палову падпісных грошай будзе заставацца на пошце.

Шаноўнае спадарства! Даводзім да вашага ведама, што канфлікт паміж рэдакцыяй газеты "Наша слова" і "Белпоштай" цалкам вычарпаны. Усе грошы за падпіску на 3-ці квартал на рахунак рэдакцыі паступілі. Затрымка грошай ніякай палітычнай афарбоўкі не насіла. Мела месца тэхнічная наўвязка. Мы аднаўляем выхад нармальнай 8-мі палоснай газеты і чакаем вашай падтрымкі.

Будзьце з намі.

## БЕЛАРУСКАЯ СЛУЖБА РАДЫЁ "СВАБОДА"

**Новыя хвалі ад 26 сакавіка 2000 года**

| Час | khz | Хвалі |
|---|---|---|
| 18.00 – 19.30 | 7295 | 41 |
| | 9610 | 31 |
| | 11725 | 25 |
| | 15565 | 19 |
| 22.0– 23.30 | 6105 | 49 |
| | 9535, 9750 | 31 |
| | 11865 | 25 |
| 06.00 – 07.00 | 6065 | 49 |
| | 7295 | 41 |
| | 9635, 9750 | 31 |

**Сярэднія хвалі** – 576 і 612 кГц

Наш адрас: 220005, Менск-5, п/с 111; Vinohradska 1, Praha 110 00 CZ.

Праграму можна слухаць, чытаць, а таксама пісаць у рэдакцыю праз ІНТЭРНЭТ: WWW.SVABODA.ORG

**НАСТРОЙЦЕСЯ НА "СВАБОДУ"!**

**Ф. СП - 1** **Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь**

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

На 2000 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | X | X | X |

**Куды** (паштовы індэкс) (адрас)

**Каму** (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|

на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

**Кошт** падпіскі **441** руб. / пераадрасоўкі руб. | Колькасць камплектаў **1**

На2000 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | X | X | X |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

# Ці выкарыстаем мы свой шанец?

10 жніўня 2000 г. адбылася сустрэча начальніка Упраўлення адукацыі Мінгарвыканкама сп. М. С. Ціцянкова, начальніка аддзела агульнай сярэдняй адукацыі сп. А. В. Фраловай і старшыні гарадской Рады ТБМ імя Ф.Скарыны сп. А. М. Анісім. Асноўнае пытанне, якое абмяркоўвалася на сустрэчы, адкрыццё беларускамоўнай гімназіі ў цэнтры сталіцы. Сп. М. С. Ціцянкоў паведаміў, што рэальная дата адкрыцця такой гімназіі – праз чатыры гады на базе 19 або 23 СШ. Гэта з улікам таго, што сёння ўсе гімназіі пачынаюць працаваць цалкам адасоблена ад пачатковай школы. Аднак, падмурак будучай нацыянальнай гімназіі трэба закладаць сёння. Такім чынам, бацькі сённяшніх вучняў падрыхтоўчых класаў атрымліваюць рэальную магчымасць забяспечыць сваім дзецям добрую беларускамоўную адукацыю.

У ходзе абмеркавання сп-ні А. М. Анісім была перададзена інфармацыя на рускай мове аб колькасці заяў, прынятых у падрыхтоўчыя класы г. Менска па мовах навучання на 2000/2001 нав. г. (па стану на 7 жніўня). Прывядзём звесткі па колькасці заяў на беларускамоўнае навучанне.

| Раёны | № школы | Беларуская мова навучання. Колькасць заяў на жнівень 2000 г. |
|---|---|---|
| Заводскі | | 161 |
| | СШ 8 | 7 |
| | СШ 68 | 15 |
| | СШ 109 | 9 |
| | СШ 111 | 87 |
| | СШ 131 | 35 |
| | СШ 210 | 8 |
| Ленінскі | | 40 |
| | СШ 2 | 38 |
| | СШ 15 | 2 |
| Кастрычніцкі | | 69 |
| | СШ 11 | 18 |
| | СШ 89 | 19 |
| | СШ 90 | 1 |
| | СШ 110 | 31 |
| Маскоўскі | | 47 |
| | СШ 39 | 5 |
| | СШ 60 | 42 |
| Партызанскі | | 45 |
| | СШ 72 | 38 |
| | СШ 108 | 7 |

| Раёны | № школы | Беларуская мова навучання. Колькасць заяў на жнівень 2000 г. |
|---|---|---|
| Першамайскі | | 87 |
| | СШ 84 | 16 |
| | СШ 190 | 12 |
| | СШ 191 | 10 |
| | СШ 49 | 1 |
| | СШ 137 | 4 |
| | СШ 177 | 4 |
| | Гімназія 9 | 40 |
| Савецкі | | 27 |
| | СШ 19 | 12 |
| | СШ 23 | 15 |
| Фрунзенскі | | 77 |
| | СШ 38 | 6 |
| | СШ 81 | 3 |
| | СШ 96 | 1 |
| | Гімназія 4 | 64 |
| | СШ 156 | 1 |
| | СШ 211 | 1 |
| Цэнтральны | | 20 |
| | Маст. ліцэй 26 | 20 |
| **Разам:** | | **573** |

Трэба адзначыць, што прычынай невялікай колькасці заяў на беларускую мову навучання з'яўляецца недастатковая інфармаванасць бацькоў. У прыватнасці, пра гэта думаецца, калі даведваешся пра тое, што напрыклад у 10 гімназію, якая знаходзіцца ў мікрараёне Паўднёвы Захад, не паступіла ніводнай заявы на беларускамоўнае навучанне. Відавочна, бацькі, ведаючы аб тым, што ў мінулым годзе не было набору дзяцей у беларускія класы ў гэтую навучальную ўстанову, сёлета проста туды не пайшлі. Варта адзначыць, што у мікрараёне Паўднёвы Захад і Малінаўка склалася дзіўная сітуацыя: на значную колькасць насельніцтва, учарашніх выхадцаў з вёскі – ніводнай беларускай школы, гімназіі і ліцэя. Такая сітуацыя не можа не грывожыць. І ў гэтым плане варта як след папрацаваць і ТБМ, і ўпраўленням адукацыі.

У сувязі з дадзенымі фактамі звяртаюся да бацькоў сённяшніх вучняў падрыхтоўчых класаў: калі Вы яшчэ не вызначыліся, у якую школу ці клас хацелі б аддаць сваё дзіця, звярніце ўвагу на беларускамоўныя класы і школы. Звяртаемся да бацькоў, якія падалі заявы на рускаю мову навучання ў сярэдніх школах №№ 8, 109, 210, 15, 90, 39, 108, 190, 191, 177, 137, 49, 19, 38, 81, 96, 156, 211, школу-ліцэй 16. Дарагія бацькі, калі ласка, перапішыце свае заявы, на беларускую мову навучання, бо ў азначаных школах могуць быць не адчынены беларускамоўныя класы ў сувязі з малой колькасцю навучэнцаў. Нашым дзецям жыць у XXI ст. Не адбірайце ж у іх права быць сапраўднымі патрыётамі, свядомымі грамадзянамі нашай цудоўнай Радзімы – Беларусі.

З усімі пытаннямі па гэтых праблемах звяртайцеся ў сядзібу ТБМ імя Ф. Скарыны: вул. Румянцава, 13, тэл. 284-85-11.

*Старшыня гарадской Рады ТБМ імя Ф.Скарыны А. Анісім.*

# А нас усё судзяць...

## (А суддзі хто?!)

Доўгі марафон чарговага цыркавога спектаклю сучаснага беларускага рэжыму пад назвай "Суд над Чыгіром" падыйшоў да фінішу. 19 траўня суддзя Васілевіч зачытвае прысуд, выконваючы загад САМАГО па палітычным знішчэнні ні ў чым не вінаватага крышталёва чыстага і тым вельмі небяспечнага чалавека.

Па ўсталяванай традыцыі блюзнерства і здзекаў з людзей, улады зрабілі ўсё, каб на АДКРЫТЫ суд ніхто не трапіў. Шчыльныя шэрагі АМАПаўцаў, добра адкормленых рэжымам, перакрылі ўсе ўваходы, жорстка спыняючы любую спробу простага грамадзяніна прайсці ў залу суда. Прапусцілі толькі супрацоўнікаў замежных пасольстваў, некаторых журналістаў, апошнія мейсцы занялі коратка стрыжаныя хлопцы ў скураных куртках. Такім чынам некалькі соцень людзей засталіся стаяць на вуліцы прыніжаныя і абражаныя.

Мы ўсе разам некалькі разоў выгукнулі: "Свабоду Чыгіру!". Тут жа палкоўнік міліцыі загадаў схапіць маладога хлопца Зьмітрака Марчука, выбраўшы яго мабыць з-за прыгожага бел-чырвона-белага значка на грудзях. На маё патрабаванне назваць сябе і патлумачыць, за што схапілі хлопца, палкоўнік загадаў двум міліцыянтам: "Узяць і гэтага!"

Прывезлі нас у трэцюю гарадскую ўправу міліцыі. (Цікавы факт: перад уваходам стаяла даволі многа маладых шараговых міліцыянтаў. На вокліч З. Марчука "Жыве Беларусь!" яны дружна выгукнулі: "Жыве!").

Па загаду вышэйшага начальніка лейтэнант Павел Алексіёнак рухава настрачыў на нас пратаколы. Аказалася, нас затрымалі за тое, што мы на вуліцы "ругались матом" і "приставали к прохожим". Пасля трох гадзінаў чакання нас "прыняў" падпалкоўнік А. Гардаш, які ў грубай форме катэгарычным тонам загадваў нам стаяць перад ім, не дазваляючы прысесці. Аб'явіў вырак: па 5200 р. штрафу, вельмі шкадуючы, што не можа даць больш.

Прайшоў час. 15 чэрвеня мне патэлефанаваў маёр міліцыі Анатоль Амельчанка і вельмі ветліва папрасіў прыехаць у міліцыю. Аказалася: "Лейтенант Алексиёнак хорошо не ознакомился с рапортом задержания и составил протокол по СТАНДАРТУ". Тут жа папрасіў падпісаць новы вырыянт пратаколу, дзе мы ўжо не "ругались матом", а толькі "скандировали: Свободу Чигирю". Меру пакарання цяпер павінен вызначыць суддзя.

Цераз тыдзень, 22 чэрвеня А.Амельчанка зноў па тэлефоне, і зноў вельмі ветліва запрасіў прыйсці ў суд Фрунзенскага р-на. Зьмітрок адмовіўся пайсці, а я сказаў, што пакольк і я паабяцаў маёру, што прыду, то мушу пайсці.

Суддзя Сцяпанава Вікторыя Аляксандраўна на маё патрабаванне весьці справу на дзяржаўнай беларускай мове абурана ўсклікнула: "Неужели вы не понимаете русского языка?!" На заўвагу, што я беларус і жыву дома, на Беларусі, а не ў Варонежскай губерні, спадарыня Сцяпанава дэманстратыўна падціснула губы і доўга пачырванеўшы маўчала. "Хорошо", – выцiснула нарэшце скрозь зубы, – "будет вам переводчик".

Тры жвавыя дзяўчынкі ў сакратарыяце на прапанову выпісаць мне позву на наступны суд на беларускай мове доўга хіхікалі і перашэптваліся. А на заўвагу, што рускамоўную я не вазьму адна з іх істэрычна-пагрозліва выкрыкнула: "Вот составим сейчас на вас протокол за неуважение к суду! Ишь, националист кокой нашолси!" Менавіта так: "националист кокой". Пайшоў я, дзецюкі, і адчуваў і адчуваю, як каляхус ў душы абурэнне і горыч. Людзі, беларусы! Дакуль жа цярпецьмем!

Самі нараджаюцца горкія радкі:

***Чужынцы бязродныя і нашы манкруты***
***Які ўжо год і які ўжо век***
***Нясуць у наш дом паасобку і гуртам***
***І гвалт, і зняваугу, і кпіны, і здзек...***

Чакаю позву ў суд. Ці маёр за мной на "варанку" прыедзе з кайданамі.

Суды працягваюцца...

***Ян Грыб, жыхар г.Менска, пенсіянер.***

ЛІТАРАТУРНАЯ ГАСЦЁЎНЯ ЧЭРЫКАЎСКАГА ТБМ

# НЕ МАГУ БЕЗ БЕЛАРУСІ

Мая мілая радзіма!.. Я не магу без цябе ніводнай хвіліначкі. Ты самая дарагая, самая цудоўная, самая блізкая... І ніякая больш зямля, няхай яна будзе з невераго дным багаццем, не можа параўняцца з рэкамі, азёрамі, лясамі любай Беларусі. Тут я нарадзіўся, спазнаў першыя радасці і нягоды жыццёвага шляху, тут я адчуў сябе беларусам. І для мяне гэта даражэй за ўсё.

Вабіць вочы пахучая канюшына, п'яняць сваёй бялюткасцю рамонкі, а налітыя сокам яблыкі так і просяцца кожнаму ў рот. Прыгожая летняя пара. Менавіта, зараз квітнее наша дарагая Бацькаўшчына. Менавіта, зараз бачны ўсе чароўныя бакі гэтай выбранай Богам зямлі. Прыгожа, ці не так?

У ціхай плыні Сожа бачны думкі людзей, іх памкненні, разважанні, мары, іх жыццё. Вада павольна плыве некуды далёка-далёка. Рака таксама думае. Маю душу апанавала радасць, радасць служэння беларускаму народу. Няхай я памру, няхай не здабуду за ўсё сваё жыццё ніякага багацця, але ў мяне ёсць найвялікшае багацце – мой народ. Ён, калі будзе такая патрэба, захіне мяне ў цяжкія часіны, надасць упэўненасць маёй душы, падбадзёрыць мяне. Таму, калі б у мяне спыталі, якія народы люблю больш за ўсё, я б адказаў, што люблю ўсе, але найбольшая любоў і пяшчота апаноўвае маё сэрца, калі я чую ўзнёслае і высокае: "Беларускі народ".

Ціхая і сонечная Беларусь. Такая рахманая, паслухмяная і добрая. Ці ёсць яшчэ дзе-небудзь такая зямля? З поўнай упэўненасцю магу сказаць: "Няма". Кожная краіна прыгожая і адметная нечым сваім, толькі ёй адной уласцівым. Але, якімі б прыгожымі ні былі гэтыя землі, яны не могуць замяніць простай і Боскай сутнасці маёй Бацькаўшчыны. Яна самая любая і дарагая ў маім сэрцы. Як і блакітныя вочы вясёлых беларусачак, што летнім вечарам пускаюць вянкі па вадзе, што гадаюць на рамонках аб пачуццях свайго мілага і адзінага, што прагледжваюць вочы, не спяць начамі, каб хоць раз убачыць сваю мару.

Што са мной стала? І даўно такое здарылася, з самага дзяцінства. Я не магу без сваёй Беларусі. Не імкнуся да ўлады, не прагну грошай. У мяне самая вялікая ўлада, і дала яе мне радзіма. Гэта ўлада над сваім сэрцам, душой, думкамі, якія ўпэўнена набылі рысы беларускасці.

Мой дарагі народ, ты клічаш мяне ў далёкую і недасягальную краіну – краіну шчырых беларусаў. Ты са старонак гістарычных кніг вітаеш мяне імёнамі Рагнеды, Ларысы Геніюш, Кастуся Каліноўскага, Максіма Багдановіча, Яўгеніі Янішчыц.

І я кожны раз, калі мне цяжка і невыносна, з крыкам у грудзях звяртаюся да сваёй радзімы, імя якой – Беларусь.

***Станіслаў Хахлоў, старшыня Чэрыкаўскай гарадской арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, старшыня раённага клуба творчай інтэлігенцыі "Натхненне".***

# Я хачу каб, народ маю песню запеў

Выстава "Я хачу, каб народ маю песню запеў..." адкрыта ў літаратурным музеі Янкі Купалы ў Менску ў дзень нараджэння паэта.

**На здымку:** на выставе ў літаратурным музеі Янкі Купалы.

**Фота Валерыя Харчанкі, БелТА.**





№ 32 (469) 16 ЖНІЎНЯ 2000 г. Наша слова

Вайсковая гісторыя Беларусі ў пытаннях і адказах

**Р. Паўловіч, малодшы навуковы супрацоўнік аддзела вайсковай гісторыі Беларусі Інстытута гісторыі НАН Беларусі**

# Ці былі на Беларусі рачныя вайсковыя флатыліі?

Так. былі (усяго 5: 1 Польская Пінская флатылія (з 1931 г. афіцыйна называлася Рачная флатылія вайскова-марскога флоту) і 4 савецкіх: рачная Заходне-Дзвінская вайсковая флатылія, рачная Прыпяцкая вайсковая флатылія, рачная Пінская вайсковая флатылія і рачная Дняпроўская вайсковая флатылія).

Як вядома, у лютым 1919 г. пачалася савецка-польская вайна. Ужо ў сакавіку 1919 г. польскія войскі Падляшскай групы пад камандаваннем дывізіённага генерала Антона Лістоўскага ўзялі Пінск і прасунуліся далей углыб Палесся, дзе было мала дарог, але існавала развітая рачная сетка, якая шырока разлівалася ў час веснавых паводкаў (у народзе гэта з'ява атрымала назву "Пінскае мора"), затрымлівала рух і забяспячэнне войск, а таксама сувязь паміж імі. У гэтых умовах 19 красавіка 1919 г. быў створаны рачны аддзел з чатырох маторных лодак, пакінутых пры адыходзе нямецкіх войск з Пінска, які наўмысна называлі "флатыліяй". Назву "Пінскай" яна атрымала ад месца свайго фармавання - г. Пінска. На пасаду камандуючага флатыліяй Лістоўскі прызначыў 19 красавіка 1919 г. былога афіцэра расейскага вікскова-марскога флоту Яна Гедройца. Першапачаткова гэта была транспартная група з дапаможнымі функцыямі (дастаўка, забеспячэнне, сувязь, разведка). Але пасля з'яўлення ў басейне Прыпяці савецкіх Дняпроўскай і Прыпяцкай флатылій, узнікла неабходнасць супрацьпаставіць ім адпаведныя польскія рачныя сілы. З гэтага моманту роля і задачы Пінскай флатыліі значна змяніліся. Акрамя транспартных задач, яна павінна была весці барацьбу з савецкімі флатыліямі і часткамі Чырвонай Арміі ў прыбярэжнай зоне, высаджваць дэсанты, падтрымліваць уласныя войскі ў наступленні і абароне. Па ходу ваенных дзеянняў Пінская флатылія пачала развівацца як аператыўна-тактычнае злучэнне, якое здольна праводзіць самастойныя заданні на флангах і перад лініяй фронту наступаючых войск, а таксама прыкрываць іх адыход і забяспечваць эвакуацыю водным шляхам. У гэтых умовах польская Віслінская флатылія, якая была створана яшчэ ў канцы 1918 г. з мэтай аховы польска-германскай дэмаркацыйнай лініі на р. Вісла і суправаджэння рачных перавозак паміж Варшавай і Гданьскам, стала, па сутнасці, базай для папаўнення Пінскай флатыліі асабовым складам і караблямі.

Улетку 1919 г. у раёне Прыпяці ішлі жорсткія баі частак Чырвонай Арміі з польскімі войскамі. На правым беразе ракі, у раёне Турава, утварыўся вялізны калідор паміж 8-й дывізіяй, якая дзейнічала на левым фланзе 16-й арміі і правым фланзе 12-й арміі. Гэтым калідорам карысталіся палякі для абходу флангаў Чырвонай Арміі і нанясення ўдараў з тылу. Таму камандаванне савецкага Заходняга фронту прыняло рашэнне арганізаваць на Прыпяці самастойную рачную ваенную сілу, якая ў аператыўных адносінах падпарадкоўвалася б камандуючаму 16-й арміі. Умовы для яе стварэння меліся, бо з красавіка 1919 г. на Прыпяці дзейнічаў аддзел суднаў (5 параходаў, 6 маторных катэраў і 11 караблёў невялікага танажу) пад камандаваннем чырвонаармейца Леаніда Асоўскага. Аддзел аператыўна падпарадкоўваўся камандзіру 1-й брыгады 8-й дывізіі і выконваў задачы разведвальна-дазорнай службы, забяспечваў перавозку войскаў, харчавання, боепрыпасаў. Таму 16 ліпеня 1919 г. Рэвалюцыйны ваенны савет Заходняга фронту прызначыў Н.А.Ёкіша начальнікам Прыпяцкага аддзела караблёў, а 24 ліпеня ў Мазыр прыбыў аддзел вайсковых маракоў у складзе 90 чалавек для фармавання рачной Прыпяцкай вайсковай флатыліі. Сярод іх былі маракі-латышы з флатыліі Савецкай Латвіі, якая дзейнічала на Заходняй Дзвіне.

Вайскова-рачная флатылія Савецкай Латвіі была створана ў сакавіку 1919 г. для абароны Рыжскага заліва, вусця Заходняй Дзвіны, падтрымкі сухаземных войскаў і мела 2 аддзелы. 1-ы апіраўся на Рыгу, а 2-і – на Віцебск. 22 траўня 1919 г. германскія войскі авалодалі Рыгай, захапілі 1-ы аддзел, 2-і ж аддзел у лістападзе 1919 г. быў перафармаваны ў Заходне-Дзвінскую рачную вайсковую флатылію (4 узброеныя параходы, 4 катэры, 2 плаўбатарэі, 3 пасыльныя караблі, 4 дапаможныя параходы) з базай у Віцебску. Камандуючыя – В. Новак (лістапад 1919 г. – сакавік 1920 г.), Т. М. Тырышкін (сакавік – лістапад 1920 г.). Флатылія вяла баявыя дзеянні сумесна з войскамі 15-й арміі Заходняга фронту супраць польскіх войскаў у сакавіку – ліпені 1920 г. У лістападзе яна была расфармавана ў сувязі з заканчэннем ваенных дзеянняў, але з кастрычніка 1925 г. па студзень 1928 г. існаваў Асобны дывізіён бранякатэраў р. Заходняя Дзвіна, галоўнай базай якога з'яўляўся Віцебск.

Фармаванне Прыпяцкай вайсковай флатыліі, якая мела 2 галоўныя базы (г. Мазыр і ст. Калінкавічы), адбывалася ва ўмовах жорсткіх баёў супраць польскіх войскаў у раёне Турава. 26 ліпеня 1919 г. флатылія дапамагла часткам Чырвонай Арміі вызваліць Тураў ад палякаў, але ўжо ў пачатку жніўня польскія войскі актывізавалі свае дзеянні. 2 жніўня Рэўваенсавет Заходняга фронту прызначыў П.І.Пашкіна камандуючым Прыпяцкай флатыліяй. 10 жніўня ён заступіў на сваю пасаду, а Ёкіш быў прызначаны памочнікам Пашкіна і начальнікам берагавой базы флатыліі, г.зн. сумяшчаў дзве пасады. А 13 жніўня ў Мазыры быў аб'яўлены стан аблогі, у сувязі з захопам Слуцка і набліжэнні польскіх войскаў да Турава.

У гэты ж дзень пачалася эвакуацыя Мазырскага раёна. Караблі флатыліі дапамаглі ў час яго эвакуацыі і ахоўвалі ўчасткі ракі. Пад націскам польскіх войскаў, якія 24 жніўня пачалі наступленне на Тураў, аслаблены 64-полк, нягледзячы на падтрымку артылерыйскім агнём Прыпяцкай флатыліі, быў вымушаны 25 жніўня пакінуць горад. У сярэдзіне верасня польскія войскі нанеслі адначасовы ўдар па правым і левым берагах Прыпяці, захапілі Копцавічы і Астражанку, а 17-га пачалі наступленне ў раёне Петрыкава і здолелі авалодаць гэтым мястэчкам. Але 19 верасня 1919 г. флатылія разам з часткамі Чырвонай Арміі вызваліла Петрыкаў і прадухіліла захоп супрацьнікам Мазыра. На наступны дзень камандуючы Дняпроўскай флатыліяй П.І. Смірноў загадаў Пашкіну з усімі караблямі і асабовым складам адбыць у Гомель. 26 верасня 1919 г. караблі Прыпяцкай флатыліі пад камандаваннем П.І.Пашкіна прыбылі ў Гомель і ўліліся ў склад рачной Дняпроўскай вайсковай флатыліі.

Дняпроўская флатылія ўпершыню была створана ў 1737 г. у Бранску пад камандаваннем віцэ-адмірала Дз. М. Сянявіна. Яна складалася з дробных драўляных парусна-вёславых караблёў, якія сваімі дзеяннямі падтрымлівалі расейскія войскі ў час расейска-турэцкіх войнаў 18 стагоддзя, і фармальна праіснавала да 1789 г. Праз 130 год, у сакавіку 1919 г., у Кіеве была сфармавана флатылія з такой жа назвай з мэтай садзейнічаць у абароне і дапамагаць у наступленні сухаземным войскам Чырвонай Арміі. У верасні 1919 г. яна перабазавалася ў Гомель, папоўнілася караблямі Прыпяцкай флатыліі і вясной 1920 г. мела каля 40 баявых караблёў. Камандуючыя: А.В. Палупанаў, П.І.Смірноў, М. Г. Сцяпанаў. З красавіка 1919 г. вяла баі на Дняпры, Прыпяці, Бярэзіне, Сожы з польскімі войскамі і Пінскай флатыліяй. У траўні 1920 г. флатылія падзелена на 3 аддзелы: Бярэзінскі, Паўночны і Паўднёвы. Галоўным і інайбольш моцным быў Паўночны аддзел на чале са Смірновым. Аддзел актыўна ўдзельнічаў у абароне г. п. Лоева, а калі часткі Чырвонай Арміі пачалі адыходзіць, ён быў вымушаны адыйсці па Сожы ў Гомель. У пачатку чэрвеня 1920 г. Паўночны аддзел вызначыўся ў аперацыі, якая ўвайшла ў гісторыю пад назвай Лоеўскі прарыў. Яе мэта – прайсці ад Гомеля (вусця р. Сож) уніз па Дняпры праз умацаваны раён супрацьніка каля Лоева і забяспечыць пераправу ўдарнай групы 1-й арміі Паўднёва-Заходняга фронту каля сутокаў Прыпяці і Дняпра. Каб увесці ворага ў зман адносна сапраўднага месца прарыву, маракі разам з партызанамі папсавалі яго лініі сувязі, разведалі праходы, напалі на суседнія польскія гарнізоны, наладзілі несапраўдную пераправу па поўнач ад Лоева. Ноччу 2 чэрвеня аддзел (5 кананерскіх лодак, 2 тральшчыкі, 2 пасыльныя караблі) пад агульным кіраўніцтвам камандуючага Дняпроўскай флатыліяй П. І. Смірнова па Сожы ад вёскі Карпаўка (па рацэ вышэй Лоева) падышоў да Лоева і на світанку з боем праравўся праз умацаваны раён і ўчастак з разбураным мостам. Пры падтрымцы 57-й дывізіі кананерскія лодкі (2 з іх загінулі) дасягнулі вусця Прыпяці каля вёскі Печкі, дзе адбылася пераправа войск Чырвонай Арміі. З другой паловы чэрвеня 1920 г. пачаўся адыход польскіх войск з Украіны і Беларусі, які скончыўся толькі на лініі Віслы і Вепра, але ўжо 19 верасня палякі зноў пачалі наступленне на Беларусь. У рэшце рэшт 18 сакавіка 1921 г. у Рызе падпісаны мірны дагавор паміж Польшчай і Савецкай Расіяй, паводле якога Беларусь была падзелена на 2 часткі з рознымі грамадска-палітычным ладам. Беларускі народ быў гвалтоўна раз'яднаны.

Як жа надалей склаўся лёс Пінскай і Дняпроўскай флатылій? У выніку страты палякамі вусця Прыпяці быў перакрыты адзіны шлях да адступлення Пінскай флатыліі. Каб не дапусціць захопу караблёў супрацьнікам, экіпажы затапілі іх. Афіцыйна Пінская флатылія была расфармавана загадам галоўнакамандуючага Войска Польскага ад 4 жніўня 1920 г., а Дняпроўская – 21 сакавіка 1921 г., калі былі выдадзены аператыўны загад за № 0058 аб расфармаванні штаба флатыліі. Але ўжо пасля падпісання Рыжскага дагавора ў Польшчы было распачата аднаўленне Пінскай флатыліі. Карабельны склад расфармаванай у 1925 г. Віслінскай флатыліі быў перададзены ў Пінскую, якая базавалася ў Пінску і мела задачай ахоўваць водныя рубяжы Палесся. У кастрычніку 1925 г. у Кіеве быў сфармаваны аддзел караблёў Дняпроўскай флатыліі. З кастрычніка 1926 г. ён называўся "Асобны аддзел караблёў ракі Дняпро", а 27 чэрвеня 1931 г. перайменаваны ў Дняпроўскую вайсковую флатылію. Камандуючыя: М.В. Трацякоў, Б. У. Харошкін, Г. Н. Чубуноў. М. В. Абрамаў.

17 верасня 1939 г. часткі Чырвонай Арміі перайшлі савецка-польскую мяжу на ўсёй яе адлегласці. Аднак з-за нізкага ўзроўню вады Дняпроўская флатылія перайшла мяжу на дзень пазней. Камандуючы Пінскай флатыліяй камандор-паручнік Вітольд Заянчкоўскі атрымаў паведамленне аб уварванні частак Чырвонай Арміі ад кіраўніка аддзялення контрразведкі. Ён неадкладна выехаў да генерада Ф. Клеберга па загад. Клеберг чакаў рашэння з Варшавы, але сувязь з ёю адсутнічала. Загаду ваяваць з Чырвонай Арміяй і Дняпроўскай флатыліяй не было. Таму калі Заянчкоўскі заявіў Клебергу пра нізкі ўзровень вады, што выключала якія-небудзь дзеянні на Прыпяці, генерал палічыў неабходным неадкладна знішчыць караблі. 18 верасня пачалося другое і канчатковае самазатапленне караблёў польскай Пінскай флатыліі, якое скончылася 21 верасня. Такім чынам, польскія караблі не зрабілі ніводнага стрэлу па Дняпроўскай флатыліі і наадварот. З кастрычніка 1939 г. галоўнай базай Дняпроўскай флатыліі стаў г. Пінск, а паднятыя, адрамантаваныя, пераўзброеныя і перайменаваныя караблі былой польскай Пінскай флатыліі былі перададзены ў склад Дняпроўскай. Колькасць яе караблёў перавысіла 120.

У чэрвені 1940 г. да Малдовы далучана Бесарабія і паўднёвая мяжа СССР пашырылася. У сувязі з гэтым было прынята рашэнне расфармаваць Дняпроўскую флатылію і на яе базе стварыць 2 новыя: Дунайскую і Пінскую. 17 чэрвеня 1940 г. згодна з загадам народнага камісара ВМФ СССР адмірала флоту М. Г. Кузняцова за № 00184 пачалося стварэнне рачной Пінскай вайсковай флатыліі з галоўнай базай у Пінску і тылавой у Кіеве пад камандаваннем капітана 1 рангу (пазней - контадмірала) Дз.Дз.Рагачова. Варта падкрэсліць, што значную частку камандных і іншых адказных пасад у Пінскай флатыліі займалі беларусы і ўраджэнцы Беларусі. Так, аддзелам бронекатэраў камандаваў ураджэнец Віцебскай вобласці, старшы лейтэнант Міхась Іванавіч Халалееў. Начальнікам часткі забеспячэння Кіеўскага вайсковага порта быў ураджэнец Магілёўскай вобласці, капітан Міхась Трыфанавіч Васілеўскі, а старшым вайсковым фельчарам гэтага порта з'яўляўся ўраджэнец г. Слуцка, доктар-харчавік Хведар Яфімавіч Фядзюшка. 151-м стралковым звязам камандаваў ураджэнец Магілёўскай вобласці, малодшы лейтэнант Андрэй Сцяпанавіч Гайдук. Раніцу 22 чэрвеня 1941 г. флатылія сустрэла ў баявой гатоўнасці ля заходняй мяжы, але імклівае адступленне частак Чырвонай Арміі стварыла для яе пагрозу быць адрэзанай ад іх. Зыходзячы з гэтага, камандаванне флатыліі перамясціла свой штаб у Кіеў, а караблі вялі абарончыя баі пад аператыўным камандаваннем камандуючага Заходнім фронтам. Але вораг працягваў імкліва наступаць. Яго войскі абыходзілі Прыпяцкую нізіну з двух бакоў. Таму ўзнікла неабходнасць выкарыстаць сілы флатыліі на шырокім фронце для больш усебаковай дапамогі Чырвонай Арміі. Зыходзячы з гэтага, 11 ліпеня 1941 г. флатылія была падзелена на 3 аддзелы: Бярэзінскі, Дняпроўскі, Прыпяцкі. Апошні, у адрозненне ад двух другіх, пад камандаваннем капітан-лейтэнанта К.В.Максіменкі з ліпеня па жнівень не страціў ніводнага карабля, а яго манітор "Бабруйск" вызначыўся ў ліпені 1941 г.

*(Заканчэнне ў наст. нум.)*

# Давайце спяваць па-беларуску




# Ох доля

*Песня з рэпертуару ансамбля "Свята", запісана В. Статкевічам у Калінкавіцкім р-не, на Гомельшчыне.*

Сонейка заходзіць
У вокны паглядае
Паўлюк на Ганулю
Скоса пазірае

*Прыпеў:*

Ох, доля мая,
Сіні вочы твае. } 2 р.
Як цябе не бачу
Баліць сэрца мае.

Як тая цяцера,
Што ляцець ня хоча,
Гэтак маё сэрца
За табой ляскоча.

*Прыпеў:*

Як тыя калёсы,
Што рыпяць без мазі,
Я прыліп да цябе,
Як свіння да гразі.

*Прыпеў:*

Ой, высах, жа высах,
Як лапаць на печы,
А ты мне ўсё кажаш,
Што я не дарэчы,

*Прыпеў:*

Куплю табе цэбар,
Пастаўлю ля хаты,
Хай табе напомніць,
Што я не жанаты.

*Першы куплет паўтараецца.*

# Жывая кніга прыроды

**Для педагогаў дашкольных устаноў. Укладальнік Ірына Марачкіна**

### ЛЕТА. ЖНІВЕНЬ.

Жнівень – апошні месяц лета. Ягоная назва паходзіць ад слова "жніво", якое прыпадае на гэты час.

У народзе кажуць: жнівень сее, жне і косіць – на сталах багацця досыць.

Жнівень, звычайна, самы багаты месяц на грыбы: маслякі, баравікі, махавікі, апенькі.

На агародзе вырастае бульба, агуркі, памідоры, морква, буракі.

Паспяваюць раннія гатункі яблык, брусніцы і ажыны.

Жнівень халаднейшы за ліпень. Адчуваецца набліжэнне восені.

Птушкі збіраюцца ў вырай. Першымі, у сярэдзіне месяца, адлятаюць стрыжы, за імі – ластаўкі.



### ЖНІВЕНЬ

Жнівень шчодры,
жнівень дбайны
І руплівы лета сын.
Ён прыспешвае камбайны:
-Перапсеюць каласы!
Кажа сонейку лагодна:
-Нам гуляць цяпер не час.
І ў садах, і ў агародах
Не абыдуцца без нас.
Падрумянім садавіну
Яркай фарбай, нібы жар,
І падчэрнім дзеткам спіны,
Каб мацнейшы быў загар.
Агародніну даспелім,
Пачырвонім, паджаўцім,
Каб усе з ахвотай елі,
Каб была па густу ўсім.

*Ніна Галіноўская.*

### ЖЫТА

Вецер шэпча з каласамі.
Жмураць вочы васількі.
Жыта колецца вусамі –
Асцяродна, матылькі!

*Ніна Галіноўская.*

### ЦЫБУЛЯ

Сто адзежын
Апранула,
Твар
Ад сонца
Захінула,
Як старэнькая
Бабуля,
Дрэмле,
Седзячы,
Цыбуля.

*Авяр'ян Дзеружынскі.*

### ЖНІВЕНЬ

Бяда перапёлцы ў жніўні. У жніўні сярпы звіняць, камбайны гудуць, снапы покатам кладуцца... А беднай перапёлцы нідзе прытулку няма. Не паспела яна ў жыце гняздо звіць, птушанят падгадаваць, як Жнівень ужо гукае:

Час адгэтуль вылятаць –
Пачынаю жыта жаць.

Ледзь уцякла перапёлка з жыта. Дзяцей ад страху пагубляла... Доўга пасля клікала іх: "Спаць пара!" А калі сабрала, павяла хуценька ў пшаніцу.

- Тут зраблю гняздзечка, - кажа сваім дзеткам перапёлка.

Толькі паспела месца выбраць, як Жнівень зноў загукаў:

Пакідай сваю святліцу –
Пачынаю жаць пшаніцу!

Пырхнула перапёлка ў ячмень. Зноў дзяцей пагубляла. Доўга шукала і клікала: "Спаць пара! Спаць пара!" Знайшоўшы, павяла ў ячмень.

- Тут нас ніхто не патурбуе!

Але раптам над самаю яе галавою зазвінела каса...

- Вылятай, перапёлка! – пачуўся голас Жніўня.

Спалохалася перапёлка і наўцёкі... Зноў дзетак пагубляла. Доўга клікала: "Спаць пара! Спаць пара!" Даклікалася і пайшла ў аўсы. Але не паспела і аснаваць гняздо, як пачула: "Вылятай, перапёлка!"

Перапалохалася бедная, сіганула ў проса, адтуль у грэчку. Нарэшце ў бульбу, а Жнівень – за ёю. "Вылятай, перапёлка! Вылятай!" – усюды чуецца яго голас.

Пырхнула перапёлка на агароды, а за ёю – дзетак чароды. Паляцела яна над лугам, а за ёю – птушаняты цугам.

Акрыялі, падужэлі яе дзеткі ад тых пералётаў. Пацямнелі ў іх крыльцы, паспрытнелі ножкі. Не агледзелася перапёлка, як дзеткі яе выраслі. А тут ужо канчаецца лета цёплае, пара ў вырай збірацца.

Сабрала перапёлка сваю вялікую сям'ю і паляцела зімаваць у вырай.

*Клаўдзія Каліна.*

### У ДОЖДЖ

Зазвінелі, загулі
Пругкія струмені.
Затрымцелі на галлі
Лісці ў нецярпенні.
Сітнягі і чараты
Навастрылі пікі.
Чарацянкі,
Раты параскінуўшы, пінькаюць.
Папярхнуліся дажджом
Жоўтыя гарлачыкі.
Прыкрываюцца лістом.
Скачуць, быццам мячыкі.
Іх не згоніць скразняком,
Будуць вадалазамі,
Бо сцяблінаю-шнурком
Аж да дна прывязаны.

*Рыгор Барадулін.*

### ЯЧМЕНЬ

Ячмень-вусач
Хаця калючы,
Але зусім,
Зусім не злючы...
На сонцы летнім
Зіхаціць,
Пад ветрам лёгкім
Шапаціць.
Даспее на палях
Ячмень,
Сажне камбайн яго
За дзень.

*Авяр'ян Дзеружынскі.*

### МАГАЗІН НА ГРАДКАХ

Прыйдзіце ў наш вясковы агарод –
Гарбуз імкнецца на высокі плот,
Сядзяць на градцы важна буракі,
Выглядваюць з-пад лісця агуркі.
Карункі-косы морква распляла,
Фасоль прыгожа гэтак зацвіла.
А бручка з рэдзькай
шэпчуцца ўвесь час:
"Цікава ведаць, хто ж
таўсцейшы з нас?"
Сцяной стаіць зялёна-сіні боб.



Прыемным пахам дыхае ўкроп.
Гарох вусаты сцелецца на дол.
Салату клікні – пабяжыць на стол.
Капуста дбайна росціць качаны:
"Хутчэй бы сталі цвёрдыя яны!"
Сябруюць і цыбуля, і часнок,
А шчаўе адышло ад іх убок.
Стаіць сланечнік, нібы вартавы,
Сур'ёзны, не паверне галавы.
У бантах яркіх палымнее мак.
Да сонца ў госці просіцца, дзівак.
А памідоры, нібы ліхтары,
Вісяць па аднаму, па два, па тры.
Клубніка ажно просіцца ў рот.
Багаты магазін – наш агарод!

*Ніна Галіноўская.*

### АПЕНЬКІ

Па каранях, як па ступеньках,
Бясстрашныя – ці ноч, ці дзень,
Палезлі рабыя апенькі
На заімшэлы вольхі пень.

*Кастусь Цвірка.*

### КАЛАСОК

Я знайшоў на
ржышчы
Спелы каласок,
Гэта нівы летняй –
Сонечны сынок.
Сціплы і маўклівы,
Быў амаль відзён,
А на самай справе –
Скарб вялікі ён.
Бо ў ім ажно сорак
Казачных братоў.
Кожны з іх па столькі ж
Адшукаць гатоў,
Каб мы невыводна
Мелі на стале
Заўтра і заўсёды
Свежы, смачны хлеб.
Як завуць, скажыце,
Гэтакіх браткоў?
Не кідайце ў полі
Летам каласкоў.

*Міхась Пазнякоў.*

### ПАСЛЯ ДАЖДЖУ

- Дзядзя,
колькі сонца на свеце?
Запыталі ў мяне дзеці.
Адказаў:
-Адно.
Смяюцца:
-Не адно, а іх – без ліку.
Сапраўды, пачаў лічыць я:
У кожнай лужы– сонца блікі.

*Максім Танк.*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:*** ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:*** № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:*** 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:*** 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by



***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***
Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 14. 08. 2000 г.
Наклад 2700 асобнікаў. Замова № 2196
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 147 руб., 3 мес.- 441 руб.
***Кошт у розніцу:*** 40 руб.